**СВАБОДА**

№ 9 1—15 верасьня 1993

Кошт 15 рублёў

*Сьвяткаваньне Дня беларускай вайсковай славы, якое адбудзецца 8 верасьня а 18 гадзіне ў Менску каля опэрнага тэатра*

# Урад лічыць “дзяржаўным злачынствам”

**Пра гэта сьведчаць афіцыйныя дакумэнты, копіі якіх неафіцыйным шляхам трапілі ў рэдакцыю СВАБОДЫ.**

Першы дакумэнт: «Докладная записка» першаму намесьніку Старшыні Саўміну М.Мясьніковічу ад Дзяржаўнага сакратара па барацьбе са злачыннасьцю і нацыянальнай бясьпецы Г.Данілава. Ён разглядае сьвяткаваньне Дня беларускай вайсковай славы як «политический шантаж государственных структур со стороны немногочисленных оппозиционных сил». Сьцьвярджаецца, што «ряд общественных организаций заявляет о том, что если не будут пресечены противозаконные акции БНФ, БЗВ, они будут обращаться за разрешением создания дружин для обеспечения своей безопасности». Во як крута!

Цытуем далей: «Надуманные празднества 8 сентября 1993 г. значительно осложняет отношения с Россией, критически оценены в телеинтервью послом России в Беларуси В.Сапрыкиным». «В такой обстановке 8 сентября 1993 г. довольно легко спровоцировать нарушения общественного порядка со стороны любых сил, что может привести к тяжелым последствиям».

І на заканчэньне Г.Данілаў уносіць прапанову: «В связи с тем, что пропаганда или агитация с целью возбуждения расовой или национальной вражды или розни относятся к разряду государственных преступлений и преследуются по закону, предлагаем:

1. Обязать Мингорисполком, облисполком, райисполкомы не давать разрешения на проведение не имеющего традиций «Дня беларускай вайсковай славы-93» в 1993 г. и последующих годах, а также других празднеств и торжеств, не установленных государством, противоречащих конституционному долгу граждан Республики Беларусь, развитию дружбы и сотрудничества с народами других стран».

М.Мясьніковіч напісаў рэзалюцыю: «Согласиться». І выдаў пісьмовае распараджэньне намесьніку старшыні Саўміну М.Дзямчуку, міністру інфармацыі А.Бутэвічу, міністру культуры Я.Вайтовічу, міністру абароны П.Казлоўскаму: «Прошу организовать работу по разъяснению исторической правды о планируемой акции, антизаконность и опасность пропаганды и агитации с целью возбуждения национальной вражды или розни». Кіраўніцтву Менскага гарвыканкаму і аблвыканкамаў: «Прошу принять меры по предупреждению антиконституционных действий, расколе и противостояния в обществе, недопущению нарушений общественного порядка». Генэральнаму пракурору В.Шаладонаву, міністру ўнутраных спраў Ул.Ягораву, старшыні КДБ Э.Шыркоўскаму: «Для сведения и принятия необходимых мер в соответствии со статусом возглавляемых Вами государственных органов». І дата: «19 августа 1993 г.» Вельмі сымбалічна!

Пачытаўшы гэтыя паперы, старшыня аргкамітэту сьвята Віктар Івашкевіч выказаўся вельмі лякантчна: «Гарбатага магіла выправіць».

**Мікола ГРЫНЯВІЦКІ**

Рэформа правапісу:

# ШТО З ГЭТАГА МОЖА АТРЫМАЦЦА

**Роўна праз 60 гадоў (дзень у дзень) пасьля апублікаваньня сумнавядомага дэкрэту СНК БССР «Аб зьменах і спрашчэньні беларускага правапісу», сёлета 28 жніўня ў друку зьявілася інфармацыя пра тое, што нарэшце сфармавана Дзяржаўная камісія па ўдакладненьні нашай артаграфіі. Такім чынам, «стыхійна-дыскусійнае» ўрэгуляваньне правапісу пераведзена на «трывалую дзяржаўную аснову». Што можа з гэтага атрымацца?**

На тое, што зь беларускай артаграфіяй ня ўсё добра, яшчэ ў красавіку 1988 г. зьвярнула ўвагу Камісія беларускай мовы пры Фондзе культуры (старшынёй камісіі быў Пётра Садоўскі, за сакратара — Вінцук Вячорка, праект праграмы рыхтаваў Зянон Пазьняк). У чэрвені 1989 г. адмысловы «правапісны» пункт быў уключаны ў праграму БНФ. Тады ў асяродзьдзі інтэлігенцыі бытавала думка, што давесьці да ладу артаграфію трэба як найхутчэй, пакуль беларуская мова шырока не ўвайшла ў жыцьцё. Але хто тады хацеў слухаць «экстрэмістаў»? Да таго ж афіцыйнае мовазнаўства сьпешна пацьвердзіла, што ў 1933 г. «усё гарэла правільна». І тым ня менш праўда прабілася, калі летась на канфэрэнцыі «Праблемы беларускага правапісу» было прапанавана ўключыць у пастанову пункт пра неадпаведнасьць рэформы 30-х гадоў сучасным вымогам, то спрачацца з гэтым тэзысам ужо не было каму.

Так у дыскусіі паміж «дылетантамі» з БНФ—ТБМ і «прафэсіяналамі» з Інстытуту мовазнаўства перамаглі першыя.

Нягледзячы на гэта, сярод дзесяці названых у друку сяброў Дзяржаўнай камісіі няма, бадай, ніводнага «дылетанта». І гэта першая цяжкасьць, зь якой сутыкнецца камісія. Верагодна, што, адсунутыя ў бок, пераможцы ў нядаўніх правапісных спрэчках (а сярод іх ёсьць такая ўплывовая асоба, як Вінцук Вячорка) будуць імкнуцца дыскрэдытаваць будучыя вынікі працы камісіі — хаця б таму, што «іх не паклікалі».

Другой цяжкасьцю стане тое, што ў камісію ўключана вельмі мала кваліфікаваных лінгвістаў. Між тым, наяўны вопыт паказаў, што ў беларускай артаграфіі існуе шмат больш праблемаў, чым пра гэта звычайна гаворыцца. Таму ў часе працы будзе попыт на дакладныя веды, высокі прафэсіяналізм, а гэтых якасьцяў, мабыць, бракуе непрапарцыйна вялікай «пісьменьніцкай» частцы камісіі.

І ўжо са стопрацэнтнай верагоднасьцю можна сьцьвярджаць, што вынікі працы камісіі ня стануць аўтарытэтнымі для беларускай эміграцыі. Хоць існаваньне дзьвюх правапісных нормаў непасрэдным чынам зьвязана з наяўнасьцю заходняй беларускай дыяспары, думкай эмігрантаў не пацікавіліся. На Зьезьдзе беларусаў сьвету ад імя правапіснай камісіі ТБМ была вылучана прапанова параіцца з эміграцыяй, але яна была дэзавуіравана старшынёю ТБМ і, як цяпер высьвятляецца, адначасова кіраўніком Дзяржаўнай камісіі Нілам Гілевічам.

*(Працяг на 2-й стар.)*

# Ці вернецца беларуская мова ў віленскія касьцёлы?

**Беларускія каталікі ў Вільні зьвярнуліся да віленскага арцыбіскупа Аўдруса Ёнаса Бачкуса з просьбаю дапамагчы адрадзіць традыцыю касьцельных набажэнстваў па-беларуску.**

Як гаворыцца ў іхнім звароце да арцыбіскупа, «гэтая традыцыя была груба перарваная падчас савецкай акупацыі, калі беларускія ксяндзы-патрыёты былі рэпрэсаваныя».

Беларускія ксяндзы служылі ў трох касьцёлах — сьв.Мікалая, сьв.Яна і сьв.Міхала. У арцыбіскупа просяць дазволу на багаслужбы ў касцёле сьв.Міхала, бо ён быў апошні, дзе з амбоны гучала беларуская мова.

**С.М.**

Георгій Таразевіч:

# «Мяне абвінавачваюць несправядліва»



**У панядзелак 30 жніўня прыступіў да працы першы намесьнік міністра замежных спраў 56-гадовы Георгій Таразевіч, прызначэньне якога на гэтую пасаду выклікала ў дасьведчанай публікі многа пытаньняў.**

**Некаторыя зь іх мы задалі Георгію Таразевічу.**

**— Вы зноў вярнуліся ў палітыку. Па чыёй волі, калі не сакрэт?**

— Па чыёй волі? Па волі ўраду. Я сам ніякіх захадаў не рабіў, ні ў кога не прасіўся.

Недзе ў красавіку г.г. была размова з Кебічам. Абмяркоўвалі розныя варыянты маёй далейшай працы, у тым ліку і гэты. Канчаткова тады вырашана нічога не было. Я быў больш схільны да гэтага варыянту. Пазьней зь Мясьніковічам была размова на гэтую ж тэму. А потым мне пазванілі і паведамілі, што выйшла пастанова аб прызначэньні мяне на пасаду першага намесьніка міністра замежных спраў.

**— Напэўна Вы ведаеце (а можа і ня ведаеце), што дэмакратычныя колы паставіліся да Вашага прызначэньня надта адмоўна. Як Вы думаеце, чаму?**

— Мне цяжка сказаць... А як Вы думаеце?

**— Думаю, што гэта зьвязваюць з папярэдняй Вашай дзейнасьцю. Напрыклад, Вашай роляй у расьсьледаваньні падзеяў 30 кастрычніка 1988 г., калі ў Менску сілаю была разагнана мірная дэманстрацыя.**

— Так, я чытаў пра гэтую рэпліку ў ЛіМе. Гэта абсалютна несправядліва. Я магу Вам даць цэлую папку «30-га кастрычніка», каб Вы пераканаліся.

Па-першае, я не расьсьледаваў падзеі 30-га кастрычніка. Я быў проста Старшынёю Прэзыдыюма ВС. І ЦК даручыў прэзыдыюму, каб сьпіхнуць зь сябе, разабрацца ў гэтай справе. Мы прызначылі камісію, якая была даволі паважная. Былі ў ёй вядомыя дзеячы культуры, Лучанок, напрыклад, ды іншыя. Перад камісіяй стаяла адзінае пытаньне: ці прымяняліся сьлезацечныя газы? Больш пытаньняў не было, бо ў пракуратуру ж ніхто не зьвярнуўся. Было папросту многа шуму...

І ўсё ж сьлезацечныя газы, як я зразумеў з пазьней атрыманай інфармацыі, відаць, былі. Але калі з гэтым разьбіралася нашая камісія, усе сьцьвярджалі, што нічога падобнага не выкарыстоўвалася. Я памятаю, што двойчы тады даручаў пракуратуры разабрацца. Нам адказалі: газаў не было. На запыт у камісію МУС СССР — такі ж адказ. Відаць, утойвалі. А нашая камісія магла зрабіць высновы толькі на падставе заключэньня спэцыялістаў. Таму абвінавачваць мяне ў неаб'ектыўнасьці несправядліва.

**— А Чарнобыль? Замоўчваньне наступстваў катастрофы?**

— А што я ведаў? Я не спэцыяліст, каб кампэтэнтна тады ацаніць сытуацыю. Я ніводнага разу ня быў на паседжаньнях камісіі палітбюро ЦК КПСС — там была ўся інфармацыя, там уся кухня, там прымаліся рашэньні...

**— Вернемся да Вашай цяперашняй працы. Ці можаце сказаць, чым Вы займаліся гэтыя першыя дні?**

— Знаёмлюся зь людзьмі, вывучаю дакумэнты, каб увайсьці ў курс справы. Зразумела, даводзіцца займацца вырашэньнем бягучых пытаньняў, якія датычаць МЗС. Былі сустрэчы з двума пасламі (Італіі і Кітая) па іхняй просьбе. Цяпер вось на стале дакумэнты ААН. Вось яшчэ стос папераў, зь якімі трэба пазнаёміцца.

**І.Г.**

ГОД ЗАСНАВАНЬНЯ 1902
ВЫХОДЗІЦЬ З 1990

Рэдактар **Ігар ГЕРМЯНЧУК**
Выдавец **Павал ЖУК**

АДРАС ДЛЯ КАРЭСПАНДЭНЦЫІ:
**220029, Менск,**
**вул.М.Багдановіча, 7а**

## Слава былых і будучых вякоў

Веліч і славу зьведала наша зямля. На яе абшарах гадаваліся сьветлыя мроі. І няхай адышлі ў нябыт тыя леты, але ж памяць пра іх засталася. Памяць пра Вялікае Княства Літоўскае. Пра Беларусь як кветку тых часоў...

Нездарма ж так вабіла чужынцаў панаваньне над дзівосным краем. 8 верасьня 1514 г. моцнага й дужага захопніка адбівалі вoі пад Воршаю. 30 тысячаў войска Вялікага Княства Літоўскага на чале з найвышэйшым гетманам Кастусём Астрожскім зваявалі 80-тысячную маскоўскую рацьць.

... Так нашыя суайчыньнікі баранілі зямлю сваю й годнасьць. Веру сваю й нацыю.

У змаганьні за Беларусь досыць лілося крыві. Няхай ня ведаць нам войнаў тых. Ушанаваць бы толькі памяць беларусаў, што здабылі неўміручую славу Айчыне.

З Днём беларускае вайсковае славы віншуем шаноўнае спадарства!

Будзьма ж пачувацца мужнымі нашчадкамі абаронцаў Айчыны! Жадайма быць вартымі іх славы!

Рэформа правапісу:

## Што з гэтага можа атрымацца

(Пачатак на 1-й стар.)

Калі саўмінаўская камісія не зьбіраецца выпрацоўваць агульны для ўсіх беларусаў правапіс (бо эміграцыя «адсечана»), калі яна ня зможа стварыць «звышдасканалую» артаграфію (бо ў ёй зашмат «вясельных генэралаў», якія тым ня менш лічаць сябе знаўцамі), калі камісія ня будзе імкнуцца да паразуменьня зь мясцовымі «іншадумцамі» — то навошта ж яна тады створаная?

Адказ адзін: камісія сфармаваная, каб «прыняць рашэньне». Колькі можна цярпець «калецтва» мовы газэтамі СВАБОДА і НАША НІВА! Хопіць слухаць «крыўляньне» «Беларускай маладзёжнай»! Трэба спыніць гэтую непісьменнасьць «законным спосабам»!

Баюся, не атрымаецца.

Бо моўнае экспэрымэнтатарства СВАБОДЫ і НАШАЙ НІВЫ зьяўляецца ў значнай ступені рэакцыяй на паняволеньне беларускай мовы афіцыйнай навукаю. Працэс «ажыўленьня», ачышчэньня мовы пайшоў, і яго ўжо не спыніць ніякімі дэкрэтамі. З другога боку, забарона правапісу, які зноў стаў ужывацца на Беларусі адначасова з дэмакратычнымі зьменамі ў жыцьці грамадзтва, непазьбежна будзе мець вынікам стварэньне вакол яго арэолу «пакутніка», «рэпрэсаванага». Між тым, якраз вобраз «рэпрэсаванага правапісу» стаўся галоўнаю прычынай адраджэньня «тарашкевіцы» (амаль праз 60 гадоў!). Можна сёньня «перакрыць кісларод» НАШАЙ НІВЕ, а заўтра расфармаваць «Беларускую маладзёжную»... І тым самым закласьці аснову для зьяўленьня ў сьвет у якім-небудзь 2053 г. чарговай пастановы пра стварэньне чарговай камісіі па чарговым ўдасканаленьні правапісу. Няўжо гісторыя нас вучыць толькі таму, што яна нічому ня вучыць?

Але ўявім, што ні Вячорка, ні эміграцыя не пакрыўдзяцца, і яны прымуць тое, што ім прапануюць Барыс Сачанка з Іванам Навуменкам. Уявім, што мовазнаўцы з камісіі і сапраўды падрыхтуюць дасканалы праект. І ў такім разе чакаць простага шляху не выпадае. Падтрымаўшы ўвядзеньне мяккага знаку (да гэтага будзе схіляць сваіх калегаў Ніл Гілевіч, але «на сьмерць» будзе стаяць Аляксандар Падлужны), камісія будзе павінна эфэктыўна распрапагандаваць сваю рацыю сярод настаўнікаў, а зрабіць гэта будзе нялёгка. Захаваўшы статус-кво і прыняўшы толькі касмэтычныя праўкі, камісія будзе змушана прыняць дакор у тым, што «гара нарадзіла мыш». Паўстане пытаньне: навошта трэба было ствараць структуру за салідныя саўмінаўскія грошы, калі правапісная камісія ТБМ змагла зрабіць нешта падобнае «бясплатна»?

Ці здолее Дзяржаўная камісія з годнасьцю выйсьці са складанага становішча? Сёетое стане вядома ўжо праз паўгода. Пачакаем.

**Васіль ГАРНАШЭВІЧ**

## НЕ БЫВАЕ ДЫМУ БЕЗ АГНЮ

Як стала вядома карэспандэнту БелаПАН ад прадстаўніка ўрада, які пажадаў застацца невядомым, прынятыя Расеяй захады па зніжэньні паставак расейскага газу для патрэбаў Рэспублікі Беларусь зьяўляецца націскам на ўрад рэспублікі з мэтай падштурхнуць яго да хутчэйшага падпісаньня рашэньня аб перадачы канцэрна «Белтрансгаз» у якасьці паевага ўнёску ў расейскае акцыйнаенае таварыства «Газпром», а таксама па пытаньні будаўніцтва дзьвюх нітак экспартнага газаправода праз тэрыторыю Беларусі. Паводле яго словаў, меркавалася таксама доўг рэспублікі ў суме каля 100 мільярдаў расейскіх рублёў забраць на пакрыцьцё паю пры стварэньні акцыйнага таварыства. Але такім чынам Расея атрымала б магчымасьць кантраляваць транспартаваньне і разьмеркаваньне газу з улікам уласных інтарэсаў. Беларусь жа мела б у акцыйным таварыстве колькасьць галасоў, адпаведную свайму ўнёску. Тым часам кошт асноўных сродкаў канцэрна «Белтрансгаз» склаў бы ня больш за адзін працэнт ад кошту асноўных сродкаў «Газпрома». Рэспубліка ж атрымае ад гэтага толькі долю ад прыбыткаў акцыйнага таварыства, падаткі за зямлю, асноўныя фонды і рабочую сілу. Такім чынам, дзякуючы падобнаму ціску Расея атрымлівае магчымасьць набываць па нізкім курсе беларускія прамысловыя прадпрыемствы.

**Ян КОПЫЛЬСКІ,**
БелаПАН

## На гістарычную радзіму — праз Горадню

**Як паведаміла газэта «Пагоня», гарадзенскі аэрапорт Абухава выкарыстоўваецца авіякампаніяй Lufthansa для перавозкі ў Нямеччыну расейскіх немцаў, якія былі дэпартаваныя ў 1942 г. з Паволжжа ў Сібір і Казахстан.**

**С.М.**

## НАШ АДРАС — САВЕЦКІ САЮЗ?

**Замежныя краіны цікавяцца: ці будзе Беларусь зьмяняць сваю паштовую індэксацыю?**

Напрыклад, аб'яднаная Нямеччына з 1 ліпеня прыняла новую паштовую індэксацыю. Кожная сям'я атрымала спэцыяльны даведнік на 996 старонак, фарматам прыкладна як часопіс «Беларусь». Нашыя суседзі, краіны Балтыі, таксама прынялі новую паштовую індэксацыю. А вось Беларусь у наступным годзе выпусьціць новы даведнік са старымі шасьцізнакавымі індэксамі на беларускай і расейскай мове. У параўнаньні з аналягічным даведнікам амаль васьмігадовай даўнасьці, у гэтым будуць зафіксаваныя толькі зьмены назоваў населеных пунктаў і будуць выключаны паштовыя аддзяленьні, якіх ужо не існуе.

Як паведамілі ў міністэрстве сувязі, тры лічбы індэкса, якія мы зараз пішам на канвэрце, абазначаюць мейсца падачы, словам гарады і вёскі Савецкага Саюза, а тры наступныя — паштовыя аддзяленьні. Сувэрэнная Беларусь магла б увесьці свой (пяцізнакавы) індэкс, але яшчэ год таму пагадзілася з аргумэнтамі Расеі і заявіла, што ня будзе гэтага рабіць, каб не ствараць праблемаў краінам СНД. Расея і Украіна пакуль што таксама застаюцца на старой індэксацыі.

У міністэрстве сувязі лічаць, што немэтазгодна мяняць шасьцізнакавы індэкс і па той прычыне, што вельмі цяжка будзе прывучыць насельніцтва да новых індэксаў. Замена індэксацыі можа заняць дватры гады і прывесьці да страты карэспандэнцыі. Акрамя таго, паштовыя тэхнічныя сродкі на Беларусі могуць апрацоўваць канвэрты толькі таго стандарту, якія выпускае Пермская фабрыка ў Расеі, а на іх шасьцізнакавая сетка.

Карацей, як сказалі ў міністэрстве сувязі, «мы ня будзем выдумляць новыя індэксы». А Балтыя зрабіла рэформу індэксацыі, не зважаючы на эканамічныя цяжкасьці толькі таму, што «рашуча і беспаваротна ўзяла добра вядомы курс».

У нас жа, відаць, ня ўсё «беспаваротна»: «наш адрас не дом и не улица, наш адрас — Советский Союз»?..

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## "Т" — прапала...

**Не пасьпелі ў Менску ў Траецкім прадмесьці адкрыць помнік Язэпу Драздовічу, як праз два дні ён ужо быў пашкоджаны.**

«Каб у іх рукі паадсыхалі!» — казаў у такіх выпадках мой дзед.

Мікола ГРЫНЯВІЦКІ




## Чым не дагадзіў падпалкоўнік Суднік?

**Падпалкоўнік Станіслаў Суднік вядомы сваёй патрыятычнай дзейнасьцю яшчэ з таго часу, як ён арганізаваў у далёкім Казахстане суполку ТБМ, а таксама выданьне беларускай газэты «Рокаш». Летась сп.Суднік зь вялікай цяжкасьцю дамогся пераводу на Бацькаўшчыну.**

Калі беларускае войска прымала прысягу, ён адзіны на Гарадзеншчыне наладзіў гэтую ўрачыстасьць у сваім падразьдзяленьні цалкам па-беларуску. Як нам стала вядома, падпалкоўнік Суднік, які дагэтуль служыў у Мастах і актыўна ўключыўся ў працу ТБМ, пераведзены служыць у лясны гушчар аднаго з суседніх раёнаў.

У нашым войску, як бачым, сёньня аддаюць перавагу афіцэрам-расейцам, украінцам, армянам, але толькі не патрыятычна настроеным беларусам, каторых альбо звальняюць, як было зь лідарам БЗВ падпалкоўнікам М.Статкевічам, альбо заганяюць далей у лес, як здарылася цяпер з падпалкоўнікам С.Суднікам.

**С.М.**

## Дударскі фэст

**24—26 верасьня ў Менску адбудзецца Другі Балтыцкі дударскі фэст**

Гэтая імпрэза ўключае паказальныя выступы дудароў, скокі, сьпевы і гульні пад дуду, навукова-практычны сэмінар.

Арганізатары фэсту на Беларусі: Цэнтр этнакасмалёгіі «Крыўя», арганізацыя «Медзяныя ваўкі» і генэральны фундатар — навукова-вытворчая фірма «Vaŭkalaka». Папярэднюю згоду на ўдзел у фэсьце далі дудары з 12 краінаў Паўночнай ды Сярэдняй Эўропы — Ангельшчыны, Беларусі, Бэльгіі, Галяндыі, Ірляндыі, Латвіі, Летувы, Нямеччыны, Славакіі, Францыі, Швэцыі, Эстоніі.

У працяг традыцыяў, запачаткаваных на леташнім Першым фэсьце (лістапад 1992), адбудзецца і рабочая сустрэча старых і новых сяброў, адмыслоўцаў старажытнага мастацтва.

А для нашых аматараў аўтэнтычнае эўрапейскае музыкі 26 верасьня дудары зладзяць канцэрт з танцамі, сьпевамі і гульнямі. Мейсца і час канцэрта будуць паведамлены дадаткова.

Па інфармацыю можна зьвяртацца на тэлефон:
(0172) 27-82-83.

**І.М.**

## Інспэктар «пераходнага пэрыяду»

**На пастах ДАІ ў Менску гэтымі днямі можна сустрэць інспэктараў, якія нясуць службу ў цывільным адзеньні.**

«Мы набіраем новых супрацоўнікаў, але выдаваць ім форму старога ўзору ня мае сэнсу, а новай формы ўсім пакуль не хапае. Таму мы вырашылі адпраўляць людзей на службу ў цывільным», — патлумачыў карэспандэнту СВАБОДЫ начальнік менскай Дзяржаўтаінспэкцыі Анатоль Сідарэня. Такая сытуацыя, на ягоную думку, будзе працягвацца яшчэ 3—4 месяцы.

Як паведаміў нам начальнік упраўленьня матар'яльна-тэхнічнага забесьпячэньня МУС Валеры Жураўскі, пераход на новую форму будзе завершаны ў наступным годзе. Да яе вырабу падключаны амаль 50 беларускіх прадпрыемстваў. У Менску пакуль пераапранута толькі 3 тысячы міліцыянтаў. 16 тысяч камплектаў адпраўлены ў Берасьце і Горадню.

**Пятро ПАНКРАТОВІЧ**



**У міліцыі ня толькі новая форма, але і новыя ўзнагароды. На здымку: ганаровы знак унутраных войскаў МУС «За самаадданую службу».**

## "Верной дорогой идете, товарищ Кебич!"

**Ну што яны за людзі, гэтыя камуністы! Жыць ня могуць без СС. Не пасьпелі яшчэ грамадзяне адной шостай часткі плянэты ачухацца ад панаваньня КПСС, як верныя ленінцы ўзяліся за стварэньне новай кіруючай і накіроўваючай — ССКП, што азначае Савет Саюза Камуністычных Партый.**

Менавіта з гэтай нагоды і сабраліся днямі ў менскім Доме вэтэранаў «партайфюрэры» Расеі, Украіны і Беларусі. Натуральна, што дамовіцца аб стварэньні ССКП нэакамуністы змаглі даволі хутка. Дзіўнага тут нічога няма. Усе яны вельмі пакутуюць ад настальгіі па былым СССР, які распаўся менавіта прасьля краху КПСС. Таму адраджаць савецкую імпэрыю лідары РК, КПУ і ПКБ вырашылі з падмурка — ССКП.

Прычым мары кіраўнікоў трох братніх кампартый аб вяртаньні былых часоў пакрысе набліжаюцца да рэчаіснасьці. Так, у прыватнасьці, адзін з кіраўнікоў ПКБ «партайгэносэ» В.Чыкін выказаў наступны плян аднаўленьня Савецкага Саюзу ў межах Беларусі і Расеі: «Першы крок — заключэньне эканамічнага саюзу, другі — вайсковага, а потым ужо і палітычнага. Гэта, так бы мовіць, іхняя праграма мінімум.

Зрэшты, нешта падобнае мы ўжо чулі з вуснаў шаноўнага Вячаслава Францавіча Кебіча. Праўда, пра неабходнасьць заключэньня палітычнага саюзу з Расеяй ён прама пакуль не выказваўся. А вось «аб эканамічным і ваенным аб'яднаньні» са «старэйшым братам» нам прэм'ер-міністр гаворыць ужо даўно. І гэта, безумоўна, як бальзам на душу ягоным колішнім таварышам па партыі: «Верной дорогой идете, товарищ Кебич!»

**Адам РОЎДА**

## НА БЕЛАРУСІ І ПАМІЖ ЛЕТУВІСАЎ НЯМА ЗГОДЫ

**У вёсцы Пеляса Воранаўскага раёна, дзе жыве шмат летувісаў, парафіяны мясцовага касьцёла напалі на журналістку віленскай газэты «Respublika».**

Аказваецца, у вёсцы разгарэўся канфлікт паміж тутэйшымі летувіскімі настаўнікамі і грамадзкімі актывістамі, з аднаго боку, і ксяндзом ды ягонай паствай — з другога. А рэч у тым, што ў 1992 годзе на будаўніцтва ў Пелясе дома культуры ксёндз Крыкшчукайціс атрымаў ад Летувіскай дзяржавы 30 тысяч амэрыканскіх даляраў, дзьве траціны зь якіх прысвоіў. Ніякія захады зь Вільні і з боку мясцовых летувіскіх актывістаў не даюць вынікаў, бо ксёндз адгарадзіўся ад усіх сваёй разьюшанай паствай — людзьмі, якіх шчодра падкупляе. Ад іх і дасталося журналістцы, якая на старонках газэты пісала аб усім, што адбываецца ў Пелясе.

**Андрэй КОРСАК,** БелаПАН

# Я ЖЫЎ З КЛЯЙМОМ «НЕБЛАГОНАДЁЖНОГО»...

Я пішу ад імя ўсіх знаёмых і незнаёмых мне былых сяброў Саюза Беларускай Моладзі — тых, каго ўжо няма ў жывых, і тых, хто ў свой час, пазьбягаючы рэпрэсій, пакінуў Бацькаўшчыну і вымушаны дажываць свой век на чужыне.

Як вядома, рашэньнем Старшыні Савету Міністраў Вячаслава Кебіча была забаронена сустрэча сяброў Саюза Беларускай Моладзі, якую ладзіла Згуртаваньне беларускіх студэнтаў напярэдадні 1-га Зьезду беларусаў сьвету. Матывацыя ранейшая: СБМ — паслугач гітлераўскіх захопнікаў.

Пракамуністычныя сродкі інфармацыі ўжо даўно вядуць шалёную кампанію па дыскрэдытацыі гэтай нацыянальна-патрыятычнай арганізацыі. Якіх толькі ярлыкоў не навешваюць! Прыдумалі нават, што СБМ быў рэзэрвам карных атрадаў СС.

Добра, што выйшла кніжка Юрыя Туронка «Беларусь пад нямецкай акупацыяй», гэтага аўтара цяжка западозрыць у неаб'ектыўнасьці, тым больш што выкарыстоўваліся архіўныя матар'ялы. Як слушна піша Ю.Туронак, гэта была своеасаблівая арганізацыя, упершыню заснаваная на Беларусі. Пра яе папулярнасьць сьведчыць той факт, што за адзін год (1943—44) у яе ўлілося каля 100 тысяч беларускіх юнакоў і дзяўчат. Пры тым рабілася гэта добраахвотна. Ахопліваў СБМ у асноўным вучнёўскую моладзь 15—17 год, якая галоўным чынам займалася культурна-асьветніцкай дзейнасьцю. Форма, эмблемы з выявай Пагоні, бел-чырвона-белы сьцяг у некаторай ступені вабілі моладзь, але галоўная прычына росту арганізацыі — ідэя нацыянальнага адраджэньня і незалежнасьці Беларусі, якая свабодна лунала сярод сяброў СБМ, нягледзячы на парадаксальную палітычную сытуацыю.

Такую арганізацыю і яе існаваньне нельга было ўявіць ні пры панаваньні Польшчы ў Заходняй Беларусі, ні тым больш пры Саветах. Нават нямецкая адміністрацыя ўспалашылася, пабачыўшы зь якім энтузыязмам праводзіліся мерапрыемствы СБМ. Напэўна, векавая прага да нацыянальнага адраджэньня, да незалежнасьці вечна прыгнечанага народа на імгненьне выявілася праз маладое пакаленьне, нягледзячы на ваеннае ліхалецьце і безнадзейнасьць становішча палітычнага.

Дарагой цаной давялося заплаціць пазьней за гэтае памкненьне да быеларускасьці. Жорстка расправілася савецкая ўлада пасьля вайны зь пераважнай большасьцю былых сяброў СБМ. Многіх саслалі ў лягеры, астатніх зрабілі людзьмі другога гатунку, пазбавіўшы асобных грамадзянскіх правоў. Напрыклад, цяжка было атрымаць вышэйшую адукацыю. Ведаю гэта па сабе, бо быў сябрам СБМ з 1942 да 1944 г., вучыўся ў Маладэчанскай сярэдняй гандлёва-адміністрацыйнай школе. Двойчы (адзін раз у Вільні, другі ў Менску) мне было адмоўлена атрымаць вышэйшую мастацкую адукацыю. Амаль усё жыцьцё даводзілася жыць з кляймом «неблаганадёжного».

Нарэшце краіна апынулася ў новай палітычнай сытуацыі. Герб Пагоня, бел-чырвона-белы сьцяг сталі дзяржаўнымі сымболямі. Здавалася б, што і на дзейнасьць СБМ настаў час паглядзець без бальшавіцкай зашоранасьці. Але наш урад, як бачым, не сьпяшаецца разьвітвацца з ідэалёгіяй былога рэжыму. На словах яны выступаюць за гуманізм і дэмакратыю, а на справах — прымаюць такія дыскрымінацыйныя рашэньні.

Сёньня нам дакладна вядома, што гэта была бяззбройная арганізацыя, якая ня ўдзельнічала ні ў якіх карных ваенных акцыях, прыпісваць ёй і яе сябрам амаль здраду беларускаму народу — проста амаральна. У гэтым сэнсе да камсамолу павінна быць нашмат больш прэтэнзій, бо на рахунку гэтай маладзёжнай арганізацыі (ня ў прыклад СБМ) мноства ўчынкаў, якія нанесьлі сапраўдную шкоду нацыянальным інтарэсам беларускага народу.

Гэта і ўдзел у клясавай барацьбе падчас калектывізацыі, дэпартацыя беларускіх сем'яў у Сібір і Казахстан, змаганьне з рэлігіяй і сьвятарамі, у выніку чаго загінула вялікая колькасьць помнікаў культуры і архітэктуры, спрыяньне ў русіфікацыі моладзі і зусім яшчэ нядаўнія выступленьні камсамолу супраць дэмакратычных зьменаў. Менавіта камсамол быў рэзэрвам партыі, якая цалкам сябе скампрамэтавала. Камсамолам папаўняліся карныя аддзелы ЧК, ГПУ, НКВД, на рахунку якіх тысячы забойстваў. Гэта з камсамольскім білетам у кішэні і чырвонай зоркай на фуражцы расстрэльвалі бальшавіцкія каты ні ў чым не вінаватых беларускіх людзей...

Між тым камсамол працягвае дзейнічаць легальна, і да яго не выстаўляецца ніякіх прэтэнзій за мінулыя ўчынкі. Чаму ж да Саюза Беларускай Моладзі, віна якога ніякім судом не даказаная, стаўленьне ранейшае — бальшавіцкае?!

**Кастусь ХАРАШЭВІЧ, сябра Саюза мастакоў Беларусі, былы сябра СБМ**

г.Маладэчна

## SOON шукае чытачоў

Шаноўны спадар галоўны рэдактар,

Прывітаньне вам з Англіі.

У мяне ёсьць адмысловая прапанова для вашых чытачоў. Мы будзем бясплатна дасылаць асобнікі сваёй газэты «SOON», якая друкуецца на лёгкай ангельскай мове, кожнаму, хто нам напіша.

У «SOON» друкуюцца артыкулы пра рэальнае жыцьцё, напісаныя нашымі аўтарамі з усяго сьвету. У газэце можна знайсьці разьвязаньні многіх жыцьцёвых праблемаў, такіх, як занепакоенасьць, страх і адзінота. Чытаньне «SOON'а» дапаможа таксама палепшыць веданьне ангельскае мовы. Мы можам дасылаць бясплатныя асобнікі і на нямецкай і французскай мовах. Чытачы «Свабоды» могуць пісаць нам на адрас: **SOON, Willington, Derby DE65 6BN, England,**

або на наш маскоўскі адрас (калі ласка, пішыце па-ангельску): **СНГ, 125047 Россия, г. Москва, а/я 34, SOON** Газэта будзе дасылацца наземнай поштай з Англіі.

З найлепшымі пажаданьнямі,

**Тоні УІТТЭЙКЭР, мэнэджэр па распаўсюджваньні**

## Зь лістоў

*«... Найбольш уражвае абыякавасьць Кебіча да свайго народу і ягоны цынізм: калі затапляецца Палесьсе, , руйнуецца фінансавая сыстэма, не паступае газ, ён сядзіць у Крыме, сустракаецца з камандуючым Чарнаморскага флёту і абяцае дапамагчы з прадуктамі. Але ёсьць ва ўсім гэтым і станоўчае. Нарэшце Расея паказала, які яна нам «брат» — падчас стыхійнага бедзтва перакрывае нам газ. У той жа самы час Амэрыка аказала пацярпелым сем'ям фінансавую дапамогу».*

**Мікола СЫНЧУК,**

г.Пінск

*«Адзначаючы другую гадавіну путча, беларуская прэса чамусьці пісала толькі пра маскоўскія падзеі і зусім «забылася» пра нашых мясцовых гэкачэпістаў, якія дагэтуль займаюць свае крэслы. Я спадзяюся, што пасьля новых дэмакратычных выбараў пракуратура будзе мець магчымасьць правесьці аб'ектыўнае расьсьледаваньне іхняй дзейнасьці».*

**Сяргей БОНДАР,**

г.Менск

*«У нашага Міністэрства абароны цяпер, здаецца, няма больш важнай задачы, чым змаганьне зь Беларускім згуртаваньнем вайскоўцаў. Бедныя генэралы! Яны і іхні апарат павінны быць удзячныя БЗВ, якое дало ім хоць нейкі занятак».*

**А.КАНДРАЦЮК,**

г.Горадня

*«Абсалютна згодны з Анатолем Сідарэвічам, які піша ў сваім артыкуле (СВАБОДА, 8), што дэмакраты не павінны больш траціць сілы на тое, каб ратаваць Шушкевіча. Для дэмакратыі карысьці ад яго ўсё адно мала. Магчыма, ягоная адстаўка прынясе больш карысьці, прысьпешыць роспуск гэтага Вярхоўнага Савету».*

**Віктар ВАСІЛЕВІЧ,**

г.Магілёў

*«Беларускае тэлебачаньне і дня ня можа пражыць без хлусьні. 30 жніўня глядзеў тэлерэпартаж зь Бярэзінскага запаведніка. Месяц таму я сам быў там і бачыў тых дзікіх зьвяроў — зуброў, аленяў, ваўкоў, мядзьвядзёў, якія пакутуюць у вальерах. Менавіта пакутуюць! А па тэлебачаньні чую: «Ім тут хапае травы і людзкой ласкі...» Спытаў бы гэты журналіст у мясцовых людзей, дык даведаўся б, што зьвяроў тут кормяць у лепшым выпадку раз на суткі — з голаду дохнуць... Большасьць вальераў ужо апусьцела, усё развальваецца.*

*У 70-я гады гэта было створана дзеля паказухі, калі тут ладзіўся міжнародны кангрэс. Каб падтрымліваць запаведнік у належным стане, многа выдаткаў ня трэба. Але ў адміністрацыі галава пра гэта не баліць. Дык адпусьціце зьвяроў на волю, ня мучайце!*

*Няўжо той журналіст быў сьляпы? А можа хлусьня стала ўжо прафэсійнай хваробаю нашага тэлебачаньня?..»*

**Алег ГУБАРЭВІЧ, настаўнік,**

г.Віцебск

*«СВАБОДА пісала, што ў некаторых гарадох Беларусі ўведзены адміністрацыйныя абмежаваньні для знаходжаньня «асобаў каўказскай нацыянальнасьці». У нас у Гомелі таксама. А што з таго? Усе цывілізаваныя краіны кантралююць межы сваёй дзяржавы, уводзяць візавы рэжым. Нашыя ж улады прыдумваюць нейкія сумнеўныя і бессэнсоўныя абмежаваньні.*

*Дарэчы, менавіта дзякуючы таму, што Эстонія і Латвія кантралююць свае межы, там няма такога «імпарту злачыннасьці», як у нас. Я не зьдзіўлюся, калі й Летува таксама ўвядзе на сваёй усходняй мяжы візавы рэжым. Да якога ж часу мы будзем заставацца прахадным дваром усяго былога СССР?!»*

**Віталь ГАЛІНСКІ,**

г.Гомель

# Дэфіцытныя даляры

Як вы думаеце, чым падобны сёньняшні валютны гандаль на савецкі гандаль часоў перабудовы? Калі ня ведаеце, скажу: адсутнасьцю дробнай манэты. Прычым ня толькі цэнтаў, але і дробных купюраў. З гэтай прычыны мая спроба купіць звычайны дыктафон ператварылася ў цэлую эпапею. Каштаваў дыктафон ня вельмі танна — усяго 44 даляры, і ўсё было б добра, калі б не апошняя лічба.

Пачалося ўсё з таго, што ў прадстаўніка фірмы, якая прадавала дыктафоны «ўсяго» за $44, не знайшлося... аднаго даляра рэшты з маіх сарака пяці. Ня доўга думаючы, я сказаў, што не патрэбен мне гэты даляр, дайце мне дыктафон за 45. Але (во дзіва!) ён адмовіўся — маўляў у касу мне трэба здаць 44 і ні цэнта больш. Вельмі ўражаны такой сумленнасьцю нашых прадпрымальнікаў, я хуценька пабег шукаць таго, хто б разьмяняў мне пяцідаляравую купюру. Энтузыязм мой зьнік недзе праз паўгадзіны, на працягу якой я не знайшоў паразуменьня ні ў мяняльных канторах Белпрамбанку і «Комплексу», ні з хлопцамі-валютчыкамі. Выйсьце заставалася адно — валютныя сэкцыі крамаў. Аднак, відаць, гандаль за СКВ ідзе зараз «ня вельмі», бо ў першай зь іх, у ГУМе, маю няшчасную пяцідаляравую купюру разьмяняць таксама адмовіліся. Дай, думаю, куплю якую-небудзь дробную рэч і тым самым вырашу праблему разьмену. Прашу прадаць мне аўдыёкасэту за $1.70, падаю сваю «пяцёрку». Зноў праблема: тры даляры рэшты мне могуць даць, а вось 30 цэнтаў...

Зь цяжкім прадчуваньнем я пайшоў у валютную краму, што ва ўнівэрсаме «Цэнтральны», і не памыліўся — дробных купюраў не было і там. Што рабіць? На маё шчасьце сустрэўся знаёмы, у якога знайшлася адна двухдаляравая купюра — роўна палова таго, што мне трэба было. Яшчэ даляр ён змог мне даць калі прадаў валютчыку (які «па сумяшчальніцтве» працаваў ахоўнікам у валютнай краме «Цэнтральнага») дзевяць даляраў, даўшы яму дзесяць і атрымаўшы рэшту. З гэтымі грашыма я і пайшоў у фірму, якая прадавала дыктафоны, дзе, відаць, паспачуваўшы, мне прадалі яшчэ адзін даляр, а потым і дыктафон...

Так што, калі ў вас недзе захаваліся дробныя даляры, беражыце іх, як раней савецкія капейкі, бо цэны на тавары за СКВ акругляць наўрад ці будуць.

**Віктар ДЗЯТЛІКОВІЧ**

## Ліст з суда

«Признать несоответствующими действительности, порочащими честь и достоинство Данилова Геннадия Ильича сведения, изложенные корреспондентом Старикевичем А.А. в статье «Правая рука Кебіча» и опубликованной в газете «Свабода» №2 за февраль 1992 года о том, что

— «імя Данілава выклікае скрыгат зубоўны ў праваахоўных органах, бо ўпадабанец Кебіча спрабуе курыраваць іх з уласьцівай яму дзікаю некампэтэнтнасьцю»;

— «... знайшоў першага магутнага апекуна... Яму настойліва дапамагалі прасоўвацца па службовай лесьвіцы...»;

— «... падчас працы ў сфэры турызму Данілаў фігураваў у крымінальнай справе аб злоўжываньнях у гэтай галіне»;

— «для Данілава надышлі залатыя дзянёчкі... Яны разам панадзіліся рабіць візыты ў бар «Янтарь»... Натуральна эліта разьмяшчалася не ў агульнай залі, а на паверх ніжэй, дзе да яе паслугаў быў рупны пэрсанал, більярдны пакой, а калі ў каго ўзьнікала жаданьне пазабаўляцца інакш — калі ласка ў асобныя пакоі... Толькі вось бармэн скардзіўся, што вяльможныя госьці часам забываліся пра некаторыя дробязі, у прыватнасьці, разьлічыцца»;

— «... паводле апэратыўнай інфармацыі, якая мелася ў праваахоўных органаў, Якалцэвіч ня толькі сам браў у лапу, але і перадаваў наверх. А гандаль тады ў гарвыканкаме курыраваў Данілаў»;

— «... на бюро гаркаму Данілаў сьцьвярджае, што міліцыя наўмысна зьбірае кампрамат на вылучэнцаў партыі, настойваў на поўным адпушчэньні грахоў для свайго пратэжэ»;

— «... пры вобыску ў Якалцэвіча была знойдзена цыдулка зь цікавым тэкстам: «Геннадий — 550 руб.» Звычайна так запісваюць картачныя даўгі»;

— «... вяртаньне старых парадкаў Данілаў успрыняў з пачуцьцём глыбокага задавальненьня. Сабраўшы прадстаўнікоў праваахоўных органаў, ён паведаміў ім пра падтрымку ГКЧП Дземянцеем і Кебічам, ды запатрабаваў ад міліцыі, суда, пракуратуры бесьпярэчнага падпарадкаваньня загадам путчыстаў. Але гэкачэпісты падвялі адданага паплечніка...»

— «... чарговы раз Данілаў выйшаў сухім з вады»;

— «... даўнія дружбакі немалы час правялі ў «Планеце» за картамі...";

— «... каманду сабе Данілаў набраў адпаведную» и «вось маральны воблік аднаго з найбліжэйшых прыяцеляў Кебіча. Скажы мне, хто твой сябар...».

Обязать редакцию газеты «Свабода» опубликовать опровержение указанных сведений в месячный срок со дня вступления решения суда в законную силу.

*Народный судья В.Турко*
*Секретарь Е.Крайчик»*

# КРАМЛЁЎСКАЯ ДАКТРЫНА

Расея выкарыстоўвае свае энэргетычныя, фінансавыя і вайсковыя мускулы, каб трымаць пад кантролем былую савецкую імпэрыю — адзначае амэрыканскі часопіс US News & World Report

У дзень прыезду нямецкага канцлера Хэльмута Коля з афіцыйным візытам на Украіну ў чэрвені гэтага года Расея раптам перапыніла пастаўку прыроднага газу праз сетку трубаправодаў, якая забясьпечвае газам Украіну і Заходнюю Эўропу. Ці было гэта сыгналам свавольнаму Кіеву, каб той акуратна абыходзіўся з Бонам? Або папярэджаньнем Захаду паважаць расейскую гістарычную сфэру ўплываў? Ці гэта было проста спробай прымусіць Украіну выплаціць сваю даўнюю запазычанасьць?

Афіцыйныя асобы з Масквы не далі адказаў на гэтыя пытаньні. Але відавочна, што, закручваючы энэргетычны кранік, выкарыстоўваючы фінансавыя паперкі і нават бразгаючы сваім вайсковым рыштункам, Расея нагадвае іншым былым савецкім рэспублікам, што яна ўсё яшчэ першая сярод роўных. І тым часам, як некаторыя новыя незалежныя дзяржавы ўзьнімаюць бунт супраць цяжкой рукі Масквы, на Захадзе ўзрастае занепакоенасьць, што былы Савецкі Саюз можа стаць гіганцкай Югаславіяй.

Адміністрацыя Клінтана, якая зь цяжкасьцю пераканала сваіх саюзьнікаў на сустрэчы ў Токіо стварыць новы фонд у 3 мільярды даляраў, каб дапамагчы Расеі прыватызаваць вялікія дзяржаўныя прадпрыемствы, выкарыстала занепакоенасьць нестабільнасьцю ў былым Савецкім Саюзе, патрабуючы болей дапамогі Ельцыну. Але спробы Расеі сілавымі мэтадамі падпарадкаваць сабе суседзяў могуць даць новыя аргумэнты ў рукі супраціўнікаў павелічэньня заходняй дапамогі Маскве. «Мы будзем выкарыстоўваць увесь уплыў, які мы маем у Маскве і суседніх краінах, каб імкнуцца да мірнага разьвязаньня любых канфліктаў», — гаворыць высокапастаўлены службовец адміністрацыі ЗША.

Ельцын, аднак, сказаў, што хоча, каб ААН ды іншыя міжнародныя арганізацыі надалі Расеі «адмысловыя паўнамоцтвы як гаранту міру і стабільнасьці ў рэгіёнах былога СССР».

Гэта ня дзіўна, што Расея ўсё яшчэ хоча дамінаваць над рэгіёнам, які яна трымала пад кантролем да 1991 г. Блізу 30 мільёнаў расейцаў усё яшчэ жывуць у іншых 14 былых савецкіх рэспубліках, а 100 000 расейскіх вайскоўцаў праходзяць там службу. Эканомікі былых савецкіх рэспублік застаюцца шчыльна пераплеценыя.

**Жорсткі курс.** «Расея мае натуральную геаграфічную сфэру ўплываў і ня можа ня ўмешвацца ў справы былых савецкіх рэспублік», — кажа Яўгеній Амбарцумаў, старшыня расейскага парляманцкага камітэту па міжнародных справах і замежным гандлі. Расейскія афіцыйныя асобы сьцьвярджаюць, што рашэньне Украіны дэ факто прысвоіць былую савецкую ядзерную зброю, разьмешчаную на яе тэрыторыі, зьяўляецца яшчэ адной прычынай, чаму Масква павінна заняць цьвёрдую пазыцыю для абароны сваіх інтарэсаў ад усё больш ваяўнічых суседзяў.

Расея працягвае весьці слоўную гульню ў даўно аджылы СНД. Але калі вайсковая структура СНД, якая існавала толькі на паперы, развалілася ў мінулым месяцы, Расея заявіла пра свае правы на ядзерную кнопку, якая раней была ў распараджэньні галоўнакамандуючага аб'яднанымі войскамі СНД.

Зьяўляецца ўсё болей сьведчаньняў таго, што расейскія вайскоўцы, якія па ідэі павінны выступаць міратворцамі ў этнічных ды палітычных міжусобіцах на тэрыторыі былога СССР, на самай справе гуляюць у фаварытаў. У Грузіі, дзе ўрадавыя сілы змагаюцца з сэпаратыстамі ў заходнім рэгіёне Абхазіі, расейскія вайсковыя самалёты наносілі ўдары па грузінскіх цэлях, расейскія зьнішчальнікі і верталёты неаднаразова зьбіваліся над зонамі баявых дзеяньняў, расейскіх наймітаў бралі ў палон грузінскія сілы. Грузіны абвінавачваюць Маскву ў спробах любым коштам утрымаць стратэгічныя авіябазы ў гэтым рэгіёне і забясьпечыць доступ да абхазскага чарнаморскага ўзьбярэжжа для свайго флёту. Расейцы адкідаюць абвінавачаньні ў падтрымцы сэпаратыстаў.

**Падазрэньні.** У Азэрбайджане прыхільнікі Абульфаза Эльчыбэя, усенародна абранага прэзыдэнта, якога адхілілі ад улады ў мінулым месяцы, абвінавачваюць расейцаў у забесьпячэньні новага прэм'ер-міністра Сурэта Гусэйнава зброяй і разьведінфармацыяй. У Вашынгтона таксама ёсьць падазрэньні наконт ролі Расеі ў Азэрбайджане. Дзяржсакратар Ўорэн Крыстафэр напісаў Эльчыбэю неўзабаве пасьля яго зьвяржэньня, што Вашынгтон «ясна выказаў Расеі нашую занепакоенасьць наконт вайсковага рыштунку, пакінутага ў Гянджы (дзе пачаўся мяцеж Гусэйнава), які цяпер выкарыстоўваецца паўстанцамі».

Масква таксама пэрыядычна прыпыняла абяцаны вывад сваіх войскаў з балтыйскіх дзяржаваў, каб выказаць сваю незадаволенасьць дзеяньнямі ўрадаў гэтых трох краін. Маладыя ўрады ў Малдове, Таджыкістане ды іншых былых рэспубліках, дзе разьмешчана вялікая колькасьць расейскіх войскаў, занепакоеныя магчымасьцю выкарыстаньня ў дачыненьні да іх вайсковага націску.

Але ўлюбёнай зброяй Расеі стала энэргія. У канцы чэрвеня Расея нечакана спыніла на чатыры дні пастаўкі газу ў Эстонію. Ельцын абвінаваціў Эстонію ў практыцы «апартэіду» з дапамогай закона аб грамадзянстве, які патрабуе, каб усе іншаземцы — у тым ліку 600.000 этнічных расейцаў — зарэгістраваліся на працягу двух гадоў у органах улады, што павінна стаць першым крокам да абвяшчэньня іх намеру стаць грамадзянамі Эстоніі або замежнікамі. Кожны, хто імкнецца стаць грамадзянінам, павінен прайсьці тэст па эстонскай мове. Гэтае патрабаваньне асабліва разлавала Расею.

Калі крызыс паглыбіўся, Расея спыніла пастаўкі газу ў Летуву і Латвію, а таксама прыгразіла Эстоніі закруціць нафтавы кранік. Неўзабаве пасьля таго, як Эстонія адступіла і паабяцала перагледзець законапраект аб грамадзянстве, газ зноў пачаў ісьці. «Расея дае Эстоніі, Латвіі ды Летуве нафту, узамен за што яны павінны сябе добра паводзіць і заставацца ў яе зоне ўплыву, — кажа Дмытро Павлычко, старшыня ўкраінскай парляманцкай камісіі па міжнародных справах. — Гэта ненармальная сытуацыя, але Расея ня хоча пазбыцца сваіх імпэрскіх ілюзіяў».

Расея, якая летась удзяліла іншым рэспублікам дапамогі на суму 18 млрд даляраў у форме наяўнасьці, крэдытаў і цэнавых субсыдыяў, пачала абыходзіцца са сваімі даўжнікамі нашмат болей жорстка, чым Захад абыходзіцца з самой Расеяй. У другой палове гэтага года Расея выдзеліць былым рэспублікам усяго $800 млн і толькі ў форме крэдытаў зь ясна акрэсьленымі тэрмінамі выплаты. «Мы не дабрачынная арганізацыя», — гаворыць намесьнік прэм'ер-міністра Аляксандр Шохін. Расейскія кіраўнікі газавай прамысловасьці кажуць, што толькі тры прыбалтыйскія рэспублікі мусяць заплаціць Расеі $57 млн за газ.

**Доля расейскае энэргіі ўва ўнутраным спажываньні (1992 г.)**

| | Прыродны газ | Нафта |
|---|---|---|
| **Украіна** | 56% | 89% |
| **Беларусь** | 100% | 91% |
| **Летува** | 100% | 94% |
| **Латвія** | 100% | * |
| **Эстонія** | 100% | * |
| **Малдова** | 100% | * |
| **Грузія** | 27% | 82% |
| **Арменія** | 0% | * |
| **Азэрбайджан** | 0% | 14% |
| **Туркмэністан** | 0% | 16% |
| **Узбэкістан** | 0% | 55% |
| **Таджыкістан** | 0% | * |
| **Кыргызстан** | 0% | * |
| **Казахстан** | 0% | 0% |

* Гэтыя краіны ня маюць сваіх нафтаперапрацоўчых заводаў і імпартуюць усе нафтапрадукты

Хоць жорсткі тон калі-нікалі прыносіць вынікі: Украіна, напрыклад, згадзілася ў мінулым месяцы зрабіць мяжу з Расеяй больш адкрытай для гандлю й падарожжаў, але Расея павінна абачлівей карыстацца сваёй эканамічнай зброяй. Былая савецкая эканоміка застаецца моцна з'інтэграваная, і іншыя рэспублікі могуць адплаціць Маскве той самай манэтай. У мінулым кастрычніку Украіна адсмоктвала газ з расейскіх трубаправодаў, напалову зьнізіўшы экспарт Расеі на Захад.

Бальшыня новых незалежных дзяржаваў шукае шляхі аслабленьня расейскае энэргетычнае хваткі. Эстонія ўжо зьменшыла сваю залежнасьць ад расейскіх энэрганосьбітаў на 50%, а ў Летуве быў ухвалены плян будаўніцтва плавучага порту для імпарту 44 млн барэляў нафты ў год. Украіна шукае нафтавыя рэсурсы на Блізкім Усходзе, выклікаючы занепакоенасьць Захаду тым, што Кіеў з прычыны беднасьці можа заплаціць за нафту ракетнымі тэхналёгіямі.

Але зьмена пастаўшчыкоў і разьвіцьцё новых эканамічных сувязяў патрабуе часу. А пакуль што Расея застанецца пануючай палітычнай і эканамічнай сілай у рэгіёне — на лепшае ці на горшае.

*(US News & World Report)*

# ДРОБНЫЯ КРОКІ НЕВЯДОМА КУДЫ

Польскі эканаміст Ежы Клеер лічыць, што Беларусь чакаюць нялёгкія часіны

Беларусь як самастойная дзяржава адыгрывае ўсё яшчэ малапрыкметную ролю ў нашых узаемных эканамічных сувязях, хоць польскія прадпрымальнікі ўсё шырэй пранікаюць на яе рынак. У студзені гэтага года з 714 супольных прадпрыемстваў аж 313 былі польска-беларускія. Нямецкія прадпрымальнікі, якія займаюць другое мейсца, мелі долю толькі ў 113 фірмах.

Што зь сябе ўяўляе беларуская эканоміка? Гэтага ніхто дакладна ня ведае. Беручы пад увагу залежнасьць беларускае эканомікі ад абмену паміж былымі рэспублікамі СССР (амаль 45% валавага нацыянальнага прадукту), а таксама спад у гэтым абмене, можна прыйсьці да высновы, што макраэканамічныя паказальнікі выглядаюць дрэнна або нават вельмі дрэнна.

З 1992 г. лавінай нарастае эканамічны рэгрэс: летась нацыянальны прыбытак зьнізіўся на 11%, а прамысловая прадукцыя амаль на 10%. У першым квартале 1993 г. спад адбываўся ўжо значна больш драматычна: 14% у нацыянальным прыбытку і 16,5% у прамысловай прадукцыі. Да гэтага спрычыніліся наступныя чыньнікі: значнае скарачэньне гандлю паміж былымі рэспублікамі СССР і адсутнасьць якіх-колечы эфэктыўных эканамічных мэханізмаў на ўнутраным рынку.

Пры гэтым зьвяртае на сябе ўвагу невысокі ўзровень беспрацоўя, якое летась не перавышала 1,2% працаздольнага насельніцтва; сёлета яно таксама ня надта вялікае. Урад усё яшчэ ня можа наважыцца на групавыя звальненьні, і на дзяржаўных прадпрыемствах існуе значны лішак працоўнае сілы. Тым часам інвэстыцыі істотна зьнізіліся (—15%), хоць і ў меншай ступені, чым у Расеі (—45%).

Нягледзячы на тое, што значная частка цэнаў кантралюецца ўрадам, інфляцыя працягвае раскручвацца, пераходзячы ў гіпэрінфляцыю. Усё сьведчыць пра тое, што сёлета, нягледзячы на вялізныя датацыі на асноўныя тавары, інфляцыя будзе вышэйшая, чым у 1992 г. Змаганьне з інфляцыяй яшчэ практычна не было распачатае.

Няшмат можна сёньня сказаць пра пераход беларускай эканомікі да рынку. Адным з найважнейшых паказчыкаў гэтага працэсу зьяўляецца стан прыватнага сэктару ў гандлі. Прыканцы 1992 г. 48% гандлёвага абароту прыпадала на дзяржаўныя прадпрыемствы, 32% на каапэратывы і толькі 20% на арэндныя прадпрыемствы ды іншыя формы ўласнасьці. Таму ня будзе перабольшаньнем сьцьверджаньне, што на шляху пераходу да рынкавае эканомікі ня зроблены нават пачатковыя крокі.

Як сфармулявана ў адным з дакладаў Нямецкага Інстытуту Дасьледаваньня Эканомікі, цэнтральнае кіраваньне народнай гаспадаркай надалей мае прыярытэт у адносінах да рынкавых рэформаў. Пра шокавую тэрапію не вядзецца ніякай гаворкі. Самае большае, што абмяркоўваецца, — гэта нейкія крокі ў кірунку паступовага ўвядзеньня рынку, да таго ж кантраляванага рынку. Аб прыватызацыі, як малой, гэтак і вялікай, толькі вядуцца размовы, нягледзячы на тое, што закон аб разьдзяржаўленьні эканомікі і прыватызацыі дзяржаўнае ўласнасьці быў прыняты парлямантам сёлета у студзені.

Напачатку меркавалася, што 60% дзяржаўнае ўласнасьці будзе перададзена грамадзянам бясплатна, а 20% прададзена па зьніжаных коштах працоўным калектывам. Аднак у лютым 1992 г. Вярхоўны Савет прыпыніў дзеяньне гэтых прынцыпаў.

Правілы прыватызацыі, прынамсі да канца траўня, былі няясныя, хоць урад плянуе прыватызаваць да канца гэтага года 17% дзяржаўных прадпрыемстваў. Замест перадачы зямлі ў прыватныя рукі, яна будзе аддавацца ў доўгатэрміновую арэнду (на 99 гадоў). Хоць вядуцца размовы пра патрэбу стварэньня прыватных сельскіх гаспадарак, іх колькасьць не перавышае дзьвюх тысячаў.

Перамены ў беларускай прамысловасьці намерваецца праводзіць урад. Аднак на шляху яе глыбокай рэструктурызацыі стаяць дзьве перашкоды. Па-першае, парлямант яшчэ не прыняў адпаведнага закону; па-другое, у бюджэце не хапае на гэта сродкаў. Зараз ніхто дакладна ня ведае, зь якім дэфіцытам завяршыўся мінулагодні бюджэт (меркавалася, што ён складзе толькі 2% ВНП, а сёлетні — 6%). Беручы пад увагу ўрадавыя абавязкі ў сфэры сацыяльных паслуг, датацыі на асноўныя прадукты, а таксама на прадукцыю многіх прадпрыемстваў, можна дапусьціць, што на рэфармаваньне прамысловасьці сродкаў ужо ня хопіць.

Кірунак рэформаў на Беларусі абсалютна няясны. З аднога боку, ёсьць імкненьне да ўвядзеньня рынкавай эканомікі, з другога, захоўваецца вельмі моцны дзяржаўны кантроль. Дуалістычная эканамічная сыстэма, што паўстала ў краіне, можа прывесьці толькі да далейшага развалу. Усё сьведчыць пра тое, што эканамічны рэгрэс яшчэ доўга будзе перасьледаваць беларускую эканоміку.

Калі й надалей будзе праводзіцца такая эканамічная палітыка, то інфляцыя (гіпэрінфляцыя) і далей будзе раскручвацца, а цэны будуць няправільна інфармаваць пра тое, што сапраўды трэба рабіць.

Гандаль Беларусі зь яе галоўнымі партнэрамі знаходзіцца на раздарожжы. Пакуль у Расеі ды на Украіне ня будзе наведзены хоць які-ніякі парадак (а да гэтага яшчэ далёка), страты беларускае эканомікі будуць надалей расьці.

Што будзе зь беларускай эканомікай? Гэтага цяпер ніхто дакладна ня ведае, тым болей, што палітычная эліта краіны не выступае ні за якія радыкальныя зьмены. Хутчэй наадварот. Як і раней, дамінуюць кансэрватыўныя погляды.

**Паводле газэты POLITYKA падрыхтаваў Віктар ЛУК'ЯНАЎ**

## Літ стабілізуе эканоміку Летувы

Пасьля ўвядзеньня нацыянальнай валюты фінансавая сыстэма Летувы стабілізавалася.

Інфляцыя, якая ў траўні дасягала 12,7%, у чэрвені — 6,2%, у ліпені, калі ўводзіўся літ, склала 2,9%.

Ліпень таксама стаў першым месяцам, калі аб'ём прадукцыі ня зьменшыўся, а павялічыўся; продаж прамысловай прадукцыі ў параўнаньні з чэрвенем павялічыўся на 3%. Па некаторых паказальніках сельскай гаспадаркі таксама заўважаны рост, а кошты на яе прадукцыю вырасьлі толькі на 0,5% (фантастычны для Беларусі Кебіча працэнт). Кошт бэнзыну ў Летуве таксама значна ніжэйшы, чым на Беларусі (па курсе даляру), прычым набыць яго можна вольна на шматлікіх прыватных запраўках.

Усе экспэрты адзначаюць, што літ пачынае выконваць сваю станоўчую ролю. Праўда, перад фінансыстамі паўсталі новыя праблемы, адна зь іх — занізкі курс даляра. За кароткі тэрмін курс упаў з 4 літаў за $1 да 1,5 літа за даляр. Сярод аграрнікаў пачалася паніка — кошт летувіскай сельгаспрадукцыі на зьнешнім рынку аўтаматычна рэзка павялічваўся. Намаганьнямі ўрада ўдалося ўзьняць даляр да 3,5 літаў. Гэты прыклад паказальны адносна праблемаў, якія існуюць у краінах, што пайшлі на ўвод нацыянальных валютаў. Але гэта, так бы мовіць, рабочы момант, а не суцэльная дэструкцыя фінансавай сыстэмы, як на Беларусі.

## Межы закрываюцца

Прэм'ер-міністр Летувы сп.Шляжавічус заявіў, што з 1 кастрычніка 1993 г. плянуецца ўвесьці візавы рэжым уезду ў Летуву для грамадзянаў з краінаў СНД (Беларусі ў тым ліку). Першы месяц візы будуць выдавацца непасрэдна на мяжы, а пасьля іх можна будзе атрымаць у пасольствах. У гэтым кантэксьце разглядаецца адкрыцьцё летувіскага прадстаўніцтва ў Менску і беларускага ў Вільні. **А.Д.**



Гэты невялікі альбом з трох аркушаў калянай паперы з фотаздымкамі выдатнай якасьці, трапіў у мае рукі амаль выпадкова. У альбоме пад кожным фотаздымкам прозьвішча аўтара: «полковник Шифрин». Беспамылкова можна вызначыць мейсца і час здымкі: Менск, лета 1944 г., першыя дні пасьля прыходу Савецкай Арміі.

Кожны здымак падпісаны: «Дом правительства. При разминировании снято: авиабомб 100-кг — 184 шт., ручных гранат — 14 ящ., винтовочных патронов — 4 ящ., сюрпризов — 2». «Театр оперы и балета. Снято: авиабомб — 50 шт.» і г.д.

Усё знаёмае і незнаёмае, на ўсім адбітак вайны.

Старыя здымкі гавораць пра многае. Мала хто ведае, што першым гаспадаром будынка ЦК КПБ, на якім цяпер вісіць шыльда «Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь», былі камісары з «Generalkommissariaten für Weissruthenien». Будаваць яго пачалі ў 1939 г., і да лета 1941-га ён яшчэ ня быў уведзены ў эксплюатацыю. Будавалі з размахам, пасьля конкурсу, на якім перамог праект архітэктараў А.Воінава і В.Вараксіна. Людзкой працы і грошай не шкадавалі. Гранітны цокаль, на якім стаіць цэнтральны аб'ект будынка, сымбалізаваў непарушнасьць партыйных падвалін. Для перакрыцьцяў упершыню ў рэспубліцы былі выкарыстаныя зборныя бэтонныя насьцілы. Таксама ўпершыню быў выкарыстаны вежавы кран.

Вайна парушыла пляны будаўнікоў камунізму. Навасёламі амаль збудаванай спаруды сталі нямецкія акупацыйныя ўлады. І толькі пасьля завяршэньня будоўлі ў 1946 г. сюды засяліліся новыя-старыя камісары — тут разьмясьціўся ЦК Кампартыі бальшавікоў Беларусі. Дарэчы, канчаткова праект так і ня быў рэалізаваны. На будынку яшчэ плянавалася ўстанавіць барэльеф з партрэтамі заснавальнікаў марксызму-ленінізму...

Будынак тэатра опэры і балету, Дом ураду з гербам БССР, які аказаўся моцным арэшкам і для нямецкіх і для сёньняшніх уладаў. Куродым і сажа на Доме афіцэраў. Падборку падобных здымкаў чытачы ўжо бачылі, але гэтыя публікуюцца ўпершыню.

Звычайна такія фотаздымкі афіцыйная беларуская прэса друкуе напярэдадні пэўных датаў і побач падае сучасны выгляд — вось так было, а так стала. Мы таксама зьмяшчаем сваю падборку да пэўнай падзеі — напярэдадні 1 верасьня, калі ў 1939 г. пачалася Другая сусьветная вайна. Менавіта тады (а не 22 чэрвеня 1941 г., як сьцьвярджаюць падручнікі па гісторыі) вайна прыйшла на беларускую зямлю.

На працягу стагодзьдзяў Беларусь не абмінула ні адна вялікая эўрапейская бойня. Так было. Будзем спадзявацца, што так больш ня будзе. Гэта ўжо пытаньне сучаснай палітыкі Беларусі.

**Андрэй КІШТЫМАЎ,**
**гісторык**








# Іван Данілавіч хаваўся ў Менску. Яго чакалі ў Вільні

## За што арыштавалі І.Кучарава?

Калі калябаранты захапілі тэлевізію Летувы, гэтага саліднага дзядзьку мы амаль штодня бачылі на блакітным экране. Апошні раз я бачыў яго зранку пасьля жнівеньскага путчу каля апусьцелага будынка ЦК КПЛ (КПСС). З тэчкаю пад пахай Іван Кучараў па старой звычцы крочыў на працу. Але каля ўваходу двое паліцыянтаў узялі яго пад рукі і накіравалі ў адваротным напрамку — служыць няма каму. Машына з савецкімі вайскоўцамі на досьвітку забрала з гэтага будынка М.Буракявічуса, А.Наўджюнаса, Ю.Ермалавічуса. І.Кучараў працаваў кансультантам у ідэалягічным аддзеле. Таму няцяжка здагадацца, чаму пасьля правалу путчу Іван Данілавіч даў ходу зь Летувы.

Калі былі сабраныя канкрэтныя абвінавачаньні супраць яго і ягонага начальства, была ўзбуджана крымінальная справа і аб'яўлены росшук. 17 ліпеня Кучараў быў затрыманы ў Вільні. На прывітальныя словы паліцыі экс-прафэсар ахнуў ад зьдзіўленьня: «Адкуль вы ведаеце, што я менавіта тут?!». Магчыма Івану Данілавічу ў гэты момант падалося, што ён, як звычайна, спакойна ідзе па Менску ў рэдакцыю газэты «Политика. Позиция. Прогноз», дзе ў апошнія гады, хаваючыся ад праваахоўных органаў Летувіскай Рэспублікі, працаваў палітычным аглядальнікам. І яшчэ палову стаўкі меў у Беларускім навукова-дасьледчым інстытуце крыміналістыкі, крыміналёгіі і судовай экспэртызы, пасьпяхова спалучаючы пасаду «вядучага» навуковага супрацоўніка з членствам у Кампартыі Беларусі. І мог бы далей спакойна працаваць, калі б не «спатрэбіўся» Летувіскай Рэспубліцы і асабліва яе праваахоўным органам.

Навошта? Давайце пацікавімся ў начальніка аддзела па расьсьледаваньні дзяржаўных злачынстваў сьледчага дэпартамэнту Генэральнай пракуратуры Летувы, галоўнага сьледчага Кястуціса Беціңгіса:

— Івану Кучараву прад'яўлена абвінавачваньне па 70 артыкуле УК Летувіскай Рэспублікі. Ён працаваў кансультантам па паліталягічных і прававых пытаньнях у ідэалягічным аддзеле ЦК КПЛ (КПСС), прымаў актыўны ўдзел у дзейнасьці гэтай антыдзяржаўнай арганізацыі. Затрыманаму прад'яўлены канкрэтныя абвінавачаньні. Ягоная дзейнасьць цесна зьвязаная з сумна вядомым камітэтам «национального спасения», яго стварэньнем, плянаваньнем зьвяржэньня законнай улады Летувы.

Са слоў К.Беціңгіса, Генэральнай пракуратуры Летувы плян перавароту сёньня ўжо добра вядомы. Зараз сьледзтва накіравала свае намаганьні на тое, каб як мага хутчэй зrрупаваць матар'ял, падрыхтаваць абвінаваўчыя высновы. У іх будуць канкрэтна названыя ўсе падазроныя, указана іх віна, пачынаючы з маскоўскіх «таварышаў» М.Буракявічуса, А.Наўджюнаса, Ю.Ермалавічуса і да радавых выканаўцаў перавароту, дэсантнікаў. Іх прозьвішчы, учыненыя злачынствы супраць нашай дзяржавы таксама ўжо вядомыя Генэральнай пракуратуры Летувы.

— Што датычыць затрыманага Івана Кучарава, то ён зразумеў, у чым яго абвінавачваюць, — сказаў К.Беціңгіс. — Зараз затрыманы знаходзіцца ў сьледчым ізалятары. Яму адразу была гарантавана абарона (адвакат), паклапаціліся таксама і пра перакладчыка. Але асаблівай шчырасьці Іван Данілавіч не праяўляе. Толькі прыціснуты канкрэтнымі закідамі кажа: «Так». Вось стыль Кучарава і ягоных паплечнікаў, калі гаворка ідзе пра выратаваньне сваёй шкуры! Будзем чакаць вынікаў сьледзтва.

**Леанардас ВАЛАЙЦІС**
*("Вечерние новости", Вільня)*



Падпісны індэкс 63887. Нумар падпісаны ў друк 2.09.93. Друкарня "Беларускі Дом Друку". Замова 1253 Наклад 20 000. П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12